

**нумары:** ПЛЕНУМ ГП БГКТ  ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС  Widzisz, mała..!


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 44 (505) | ГОД X | 31 КАСТРЫЧНІКА 1965 г. | ЦАНА 60 гр.







**УВАГА ПРАЦАЎНІКІ ПОШТЫ І РУХУ У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ АБ'ЯВІМ ДЛЯ ВАС АТРАКЦЫЙНЫ КОНКУРС.**



На магіле Героя Савецкага Саюза Рыгора Кунавіна і яго сябраў у Герасімавічах, Дуброўскага павета.

Фота Ул. Паўлючук

Новыя вершы

МІХАСЬ МАШАРА

## Ля брацкіх могілак

Ці то раніцай роснай,
ці кладўцца як спаць.
Тут вясковыя сосны
і без ветру шумяць.

Тут між сосен і дзюнаў,
пад гранітам у рад,
многа мужных і юных
пахавана салдат.

У цяжкую хвіліну
палеглі яны тут.
Толькі ўдзячнай Айчыны
грагрымеў ім салют.

І каб спалі спакойна,
каб трывогі не сніць:
з бронзы выліты воін
з аўтаматам стаіць.

Людзі працы, над морам,
набіраючы сіл:
носяць кветкі і горач
да салдацкіх магіл.

Дубалты, 27.6.65 г.

## ГАСПАДАР НА ПЕРШЫМ МЕСЦЫ

Для Беласточчыны добрае развіццё сельскай гаспадаркі мае падставовае значэнне. Аб сіле беластоцкай эканомікі рашае не горад але вёска, не прамысловасць але зямля. У нас гаспадар на першым месцы!

Вядома, што на ўрадлівасць нашых палёў маюць істотны ўплыў — меліярацыя, электрыфікацыя, разбудова сістэмы агранамічных і тэхнічных паслуг, новыя школы, дарогі, асяродкі здароўя і т.п. Аднак як ніяк але найбольшую рацыю мае той, хто лічыць, што нашаму гаспадару патрэбны перад усім адпаведныя будынкі — хлявы, гумны-клуні. Без іх цяжка гаварыць аб будучыні.

Каб адпаведна пабудавацца патрэбны не абы-якія грошы. А грошы — не каменні, не валяюцца яны на палявых сцежках-дарожках. Гаспадар патрабуе салідная падмогі ад дзяржаўных улад, словам, патрабуе ён крэдыту.

Сёлета выдаткавана 187 мільёнаў злотых крэдыту — у два разы больш, чым у 1958 годзе, сем год таму назад.

Многа гэта ці мала?

Напрыклад, у 1964 годзе ў Сакольскім павеце гаспадары прасілі сельскагаспадарчы банк, каб даў ім крэдыту каля дзесяці мільёнаў злотых але дасталі яны ўсяго раптам тры з паловаю мільёна. Найляпей пастаралася для сваіх гаспадароў сямяцкая павятовая рада, якая амаль усім здабыла патрэбныя крэдыты. Здабыла іх коштам іншых паветаў, якія не праявілі належнай энергічнасці ў гэтай справе.

Сёлетні амаль двухсотмільёнавы крэдыт, хаця і большы на трыццаць мільёнаў зл. чым у 1964 г., аднак не задаволіць

### ПРА НАЙБОЛЬШУЮ РАЦЫЮ

нават і палавіны патрабуючых гаспадароў. Не зайздрошчу дырэктару сельскагаспадарчага банка, калі ўсе павятовыя рады набяруцца такой энергічнасці як сямяцкая...

**БЯДА...**

...з будаўнічымі матэрыяламі. Усё замала цэменту, вапны, цэглы, пустакоў, прэфабрыкатаў. Усяго патрэбна ўдвая, утрая, а чарапіцы і прэфабрыкатаў нават у сем разоў больш.

Мой знаёмы Славік з Махнатага выробляе чарапіцу і аніяк не можа паспець з заказамі, каб працаваў ён нават дзень і ноч. Ваяводскія начальнікі ламаюць галавы над тым, як разбудаваць цагельні і чарапічныя заводы, а тым часам мала бракавала, каб замкнулі вялікую цагельню ў Лясанцы пад Міхаловам. Маем дачыненне з такімі глупствамі, што будаўнічыя матэрыялы давозім аж з заходніх ваяводстваў, калі тым часам матэрыялы выробляемыя ў Беластоку, Аўгустове і Шапятове вывозяцца, як кажуць, у шырокую Польшчу. І так, кругом бабка!

Гайнаўская ПЗГС-аўская будаўнічая спулдзельня «Чын» займаецца будовою крамаў аж у Бельскім павеце ўсё роўна як бы на Бельшчыне пазводзіліся свае рамеснікі. Такія будовы на адлегласць надта марудныя. Магчыма, «Чын» закончыла будову крамы ў Снежках, а мо вызначыла новы тэрмін на нейкую дзяржаўную гадавіну? Гавару аб снежкаўскай краме як аб прыкладзе такой дзейнасці спулдзельні «Чын», якая хутчэй за ўсё павінна падумаць аб праблемах вясковага будаўніцтва на ўласным панадворку, на Гайнаўшчыне з саламянымі стрэхамі і падгніўшымі хлявамі царскіх часоў.

У Мокрым бачыў я муравянку пабудаваную вясковымі рамеснікамі, якія раней можа і добра ўмелі стаўляць драўляныя вуглы. Пабудаваная імі муравянка проста распаўзаецца пад націскам чарапічнага даху таму, што мураваныя вуглы не маюць вязання — зроблены без накладак, толькі злеплены вапнаваю мешанінаю.

(Працяг на стар. 5)

**Аказваецца, што Нарва была выгадным сродкам транспарту не толькі ў даўнія часы. І зараз, як бачым на здымку, некаторыя сяляне з асады Нарва карыстаюцца транспартам па рацэ Нарве.**

**Фота Ул. Паўлючук**






ДАДАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 44 (405) 31 кастрычніка 1965 г.

## ВОСЕНЬ

Вецер твар бярозы гладзіць,
Падмятае сцежкі ў садзе, —
І ляціць, ляціць лісток —
Вераснёвы вестунок.

Залатыя ўздзеўшы маскі,
Дрэвы сталі нібы з казкі.
І ідзе сцяжынкай зорнай
Наш атрад пад гукі горна.

**ВАСІЛЬ ТКАЧОЎ**



## А★Д★Г★А★Д★А★Н★К★А




У лабірынце тры сцежкі.
Як пабягуць дзеці да сваіх нумароў?

## КУТОК ГУМАРУ



Колькі разоў
Я табе гаварыла:
Ты не макай
Свайго носа ў чарніла.

### Успаміны з паходаў



Адрас рэдакцыі: Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Zorka". BZGraf. C-3

# САБАЧАЯ грамата

(Беларуская народная казка)

Некалі панамі былі не толькі паны, але і панскія сабакі. І мелі яны пры сабе важныя паперы — дваранскія граматы. У тых граматах пісалася: ніхто таго ці гэтага пана або яго сабаку і пальцам крануць не смее, а самі яны маюць права біць і кусаць прыгонных людзей, колькі ім уздумаецца.

Паны і сабакі ганарыліся сваімі граматамі, трымалі іх пры сабе і шанавалі, як вока.

Вось аднаго разу пан і яго сабака сабраліся ехаць на суд. Сабака і думае: «Дарога ў горад немалая, а тут яшчэ задажджылася, грамата можа размокнуць. Што я тады без дваранскай граматы варты! Не, пакіну лепш яе кату на схованку».

А трэба сказаць, было гэта тады, калі і сабакі, і каты, і мышы жылі ў згодзе, сябравалі, адзін аднаго паважалі.

— Толькі глядзі, — кажа сабака кату, — з граматы вока не спускай. А то бяда будзе...

Узяў кот грамату і палез на печ. Ляжыць там ды дрэмле сабе, муркаючы. А сам адным вокам на грамату паглядае, каб хто не ўкраў. Ляжаў, ляжаў, і захацелася яму на двор выбегчы, на сонейку пагрэцца, за верабʼямі паганяцца. Паклікаў ён мыш з норкі і перадаў ёй сабакаву грамату.

— Толькі глядзі, — кажа, — добра схавай, каб не згубілася.

— Не турбуйся, сусед, — кажа мыш. — Я яе ў норцы сваёй схаваю. А туды апроч мяне і маіх дзетак ніхто не заглядае.

Загуляўся кот на двары і пра сабакаву грамату забыўся. Ды і суседкамыш не вельмі пра яе клапацілася — кінула ў кутку норкі і пабегла.

Тым часам вярнуўся сабака з суда.

— Давай маю грамату, — кажа да ката. — Цяпер я сам буду яе сцерагчы.



Кот да мышы:

— Дзе сабакава грамата?

Мыш сюды-туды — няма граматы!

— Дзе сабакава грамата? — пытаецца ў мышанят.

— Якая грамата?

— А тая папера, што я ў норцы схавала.

— А, — кажуць мышаняты, — мы яе, дурэючы, на шматкі пашматалі.

Насварылася мыш на мышанят, ды што зробіш: страчанага не вернеш! Выбегла яна з норкі і сказала кату пра бяду.

Як пачуў гэта кот, як узлаваўся на мыш:

— Ах ты такая-сякая! Што ж я сабаку скажу? Я цябе разарву за гэта і з'ем. І выпусціў на мыш свае вострыя кіпцюры. Мыш ледзьве паспела ў норцы схавацца.

Вярнуўся кот да сабакі з сумнаю навінаю.

— Ай-яй-яй! — заскуголіў сабака — Што ты, гультай, нарабіў! Цяпер я ўсе свае дваранскія правы страціў. Я табе гэтага ніколі не дарую! — Загыркаў і кінуўся на ката, кот — на плот, хіб наставіў, зафыркаў, «Не падыходзь!»

З таго часу і разладзілася сяброўства ў сабак, катоў і мышэй. Сабакі не могуць катам дараваць, а каты сваю злосць на мышэй спаганяюць.

Вось што тая сабачая грамата нарабіла.



## Для самых маленькіх

### ДЗЕД АРХІП

Пад гарою
Вырас грыб.
Грыб убачыў
Дзед Архіп.
Стаў цягнуць яго
Із моху —
Не хапіла
Духу.
Абяссілеў
Дзед Архіп.
Ты паможаш
Вырваць грыб!



# Клікала песня да зброі

«Развітанне з Радзімай»... Чароўныя гукі паланеза. У ім знайшлі ўвасабленне і невычэрпная любоў да роднага краю, і палымяны патрыятызм выдатнага польскага кампазітара Міхала Кляофаса Агінскага, 200-годдзе з дня нараджэння якога зараз адзначае ўсё прагрэсіўнае чалавецтва.

Арэол славы вакол імя Агінскага быў настолькі вялікі, што пры жыцці аб ім складаліся легенды. Карыстаючыся гэтым, прадпрымальныя выдаўцы музыкі зараблялі велізарныя грошы, друкуючы п'есы Агінскага з інстрыгуючымі тлумачэннямі. Паланез «Развітанне з Радзімай» быў аб'яўлены «пасмяротным» творам кампазітарам; хадзілі чуткі, што Агінскі застрэліўся пад гукі гэтага паланеза...

Але жыццё Агінскага было настолькі багата падзеямі, што яно не мела патрэбы ў такіх легендах.

Ён належаў да знатнага княжаскага роду, але ў час паўстання быў побач з нацыянальным героем Тадэвушам Касцюшкам. На свае грошы Агінскі арганізаваў атрад, узначаліў яго і сам храбра змагаўся, не раз рызыкуючы жыццём.

Польскі вяльможа стаў афіцэрам народна - вызваленчай арміі, а модны салонны кампазітар, які складаў прыгожыя п'ескі, стаў аўтарам баявых рэвалюцыйных песень і паходных маршаў.

У «Пісьмах аб музыцы» Агінскі расказваў, што яго патрыятычныя песні карыстаюцца вялікім поспехам, бо яны ўзбуджаюць храбрасць, энергію і энтузіязм таварышоў па зброі.

Апошні перыяд жыцця кампазітара звязаны з Італіяй, з горадам Фларэнцыяй. Ён вельмі многа працаваў, перапісваўся з польскімі эмігрантамі, якія жылі ў розных гарадах Еўропы, дапамагаў ім парадамі і грашыма, падтрымліваў многіх польскіх кампазітараў, пісьменнікаў, мастакоў, пісаў артыкулы і кнігі. І вельмі многа працаваў як музыкант — складаў паланезы, мазуркі, вальсы, маршы, рамансы на словы польскіх, французскіх і італьянскіх паэтаў.

Прайшло больш 130 год. Але да гэтага часу ў Польшчы, у Еўропе, ва ўсім свеце памятаюць гэтага выдатнага чалавека, патрыёта, музыканта, які верна паслужыў свайму народу.

**АЛЕНА РАКАВА**
музыказнаўца



# КОШКІН НОС



Міша сказаў:
— Я ўмею маляваць кошку.
Ліля сказала:
— Я таксама ўмею.
І Сярожа сказаў:
— Я таксама.
Ліля ўзяла кавалак крэйды і намалявала белую кошку.



— Не падобная! — сказаў Міша.
— Кошкі не маюць такога носа.
— Вось я намалюю! — сказаў Сярожа.
Ён узяў кавалачак цэглы і намаляваў рыжую кошку.
— Не падобная! — сказала Ліля.
— У тваёй кошкі таксама няправільны нос.



Тады Міша сказаў:
— А я намалюю ўсё правільна. Ён узяў вугалёк і намаляваў чорную кошку.
— Хітры! — сказалі Ліля і Сярожа.

**М. ГОРДЗІН**



## ЗРАБІ САМ



Такія фігуркі паспрабуй зрабіць пры дапамозе ножанак і клею з паперы, найлепш з кардону. Потым можна фігуркі памаляваць фарбай.

## Рыбакі

Вуда ў кожнага ў руцэ
Ловім рыбу мы ў рацэ...
Тут паволька — скок, скок, скок, —
Мой тусіны паплавок.

Хлеб мой нехта праглынуў,
Паплавочак патануў,
Ірвануў тут вуду я,
Значыць, рыбка ты мая.

Мне папаўся на кручок
Невялікі акунёк.

**Коля Рыжа**

## Пазнаёмімся

Дарагая «Зорка»!

Мы вучымся ў сёмым класе пачатковай школы. Вельмі любім чытаць «Ніву» і «Зорку». Вельмі чакаем, калі прыйдзе «Ніва». Дарагая «Зорка», пазнаём нас з сябрамі і сяброўкамі іншых школ. **Ліда Краснадэмбская, Вася Андрэюк, Анна Галубоўская, Вера Яроцкая, Мікалай Ісаюк, в. Паўлы, пошта Рыбалы пав. Бельскі.**

### ДЗІНАЗАЎРЫ ЯК ЖЫВЫЯ

На сусветнай выстаўцы ў Нью-Йорку, у павільёне Форда, можна, седзячы ў аўтамашыне, агледаць прагістарычны пейзаж. Дзіназаўры зроблены ў натуральную велічыню, рухаюцца і нават выдаюць з сябе дзіўныя гукі. Для такіх штучак абсталяваны навейшыя электронныя машыны.






## Ні ўдавец ні хлопец

Ты прапіў зарплату,
Гарнітур і боты.
Не вярнуўся ў хату,
Начаваў пад плотам.

Сорам выесць вочы —
Кінуў жонку, дзеці.
«Вольным» быць ты хочаш,
Як у полі вецер.

Людзі справяць рогат,
Жартаў, кпінаў хопіць:
— Вунь пайшоў дарогай
Ні ўдавец ні хлопец.

Зноў рашыў жаніцца
Ды пайшоў у сваты,
Дзеўка казырыцца:
— Адыйдзі, жанаты!

Да ўдавы прыбіўся
На бліны і сала.
Мала пажывіўся,
П'яніцу прагнала.

Справы вось такія —
Дуру ў яго многа.
Цёткі кажуць: — Кіем
Ажаніць такога!

Захар Бірыла

### НОВАЯ КВАТЭРА

— Наша новая кватэра цудоўная, але мае адзін недахоп: суседзі чуюць усё, пра што мы гаворым.

— А хіба нельга павесіць на дзверы тоўстыя парцьеры?

— Можна, але тады мне не будзе чутна, пра што гавораць суседзі.



— Сёння прыёму не будзе. Ідзе нарада пра чулыя адносіны да чалавека.

### РЭЗОННАЕ ПЫТАННЕ

Бацька прыехаў у Інстытут пабачыцца з сынам. У хімічным кабінеце ён пачуў, што студэнты рыхтуюць універсальны растваральнік.

— А што гэта такое? — спытаў госць.

— Вадкасць, якая раствярае ўсё, што хочаш.

— Выдатная рэч, — у захапленні паківаў галавой бацька. — Толькі калі вы яе зробіце, у чым вы збіраецеся гэта захоўваць?

## УСЯЧЫНА



Як я вам падабаюся?



Без слоў

## Між намі

Кажуць, што хлусню разносяць злыя языкі. А якія вушы яе слухаюць?

### ЧЫМ МОЖНА ДЫХАЦЬ

— Дарагі, з табою я — хоць заўтра на Месяц!

— Але ж там, кажуць, няма паветра.

— Я буду дыхаць табою.

— А чым жа буду дыхаць я?

### ЗАРАПАРТАВАЎСЯ

— Як рыхтуецеся да пажару?

— Як мае быць!

— За колькі мінут збіраецеся па сігналу?

— За тры мінуты да пажару.

### ПАДУШКІ НЕ БЫЛО

— Міхась, дзе ты збіў калені?

— Упаў на тратуар.

— Навошта ты гэта рабіў? Падаць можна толькі на падушку.

— Але ж там не было падушкі.

## і АПАЛОНІКА

Кожны чалавек мае права мець свой уласны — хоць не заўсёды найлепшы — пункт гледжання.

*

Кожны чалавек адну і тую ж рэч іначай бачыць.

*

Ёсць погляды прыхільныя, узнёслыя і ідыёцкія.

*

Ёсць людзі, якія наштодзень жывуць ілюзіямі.

*

Паміж карцінай і рэчаіснасцю часта бываюць вялікія трэшчыны.

## Волас

— Пры жаніцьбе не было дагавору карміць мяне валасамі, — сказаў Мінай вымаючы з талеркі доўгі волас.

— З лысага кухара не ўпадзе ў каструлю волас, — сказала жонка. — Не думаю, каб ты хацеў бачыць мяне лысаю.

Мінай усё разглядаў волас і мармытаў:

— Дзіўна! Жонка брунетка, а гэты волас залацісты.

— Перастань даглядацца, гэта волас нашай суседкі Люды. Еш! Чаго думаеш?

— Думаю, колькі жанчын у нашай вёсцы і як доўга мне давядзецца есці гэтыя валасатыя прыправы?

— Калі б гэта быў мужчынскі волас, мог бы раздумваць, а на жаночы не звяртай увагі, — насмешліва заўважыла жонка.

— Выхлюпну страву табе на галаву, нябось, навучышся акуратнасці.

— Спрабуй!

— Пабачым...

— Пачынай!

— Ну і пачну.

— Не палохай бабы пярэвяслам...

У гэты час увайшла ў хату суседка Люда і запытала:

— Што гэта ў вас, позні абед ці ранняя вячэра?

— Дык вось замест яды, развжаем аб валасах, — паскардзілася гаспадыня.

Падсядаючы да Міная, Люда запытала:

— Якімі валасамі цікавішся, суседзе?

— Няскромнае пытанне, Люда, проста саромеюся адказаць. Вось вы, жанчыны, з усіх бакоў цікавыя...

— Гэта ж самае казаў учора пісьманосец вашай жонцы.

— Што!?

— А так. Жонка ў вас бы шаснастоўка, пісьманосец знаецца на бабах як на пісьмах.

Гледзячы ў талерку Мінай моўчкі еў.

Калі пайшла Люда, ён запытаў:

— Як было ў цябе з пісьманосцам?

— Ніяк.

— Адкуль ён ведае, што ты з усіх бакоў цікавая?

— Мо ты расхваліўся, чаго чапляешся да мяне?

— Настаўлю пячатак пісьманосцу, людзям на вочы не пакажацца.

Грукнулі дзверы.

— Мая пашана, гаспадарам, — сказаў увайшоўшы пісьманосец і дадаў: — Вам пачка з заграніцы, вось тут распішыцеся.

— Ці вялікая? — не вытрымаў Мінай, але пісьманосец толькі казырнуў і выйшаў.

Жонка распячатала канверт і прачытаўшы сказала: банк ПКО паведамляе аб перасылцы нам сто долараў.

Абняўшы жонку, Мінай выгаварыў:

— Бачыш, Галя, якія добрыя людзі на свеце, і пісьманосец, і твая цётка заграніцаю, і ты, — Мінай нахіліўся і пацалаваў жонку.

— Валасы цалуеш, хацеў выліць страву мне на галаву, — прыпомніла жонка.

— Не будзь такая злапамятная, — азваўся Мінай і закурыў.

Дзядзька Левон

### КУР'ЕЗЫ

#### Чуллівы служака

Роберт Уоркер, пісьманосец з аўстралійскага горада Сіднея, нядаўна быў звольнены з працы. Ён увёў своеасаблівую цэнзуру: прагледжваў пісьмы, і, калі ў іх паведамлялася аб чым-небудзь непрыемным, што магло б знерваваць ці засмуціць адрасата, проста складаў іх у скрынку ў сваім падвале. «Я толькі хацеў засцерагчы маіх бліжніх ад клопатаў і пакут», — заявіў чуллівы служака на судзе.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Веры Сушч** з вёскі Кошкі ў Бельскім павеце змяшчаем польскую песню:

## WIDZISZ, MAŁA...



*Słowa: A. Osiecka* — *Muzyka: J. Abramow*

*Miałaś wtedy osiemnaście lat,*
*gdy do miasta przybył on,*
*miał na sobie więcej lat,*
*niż ze sobą forsy wziął.*
*Mówił ci, że zwiedził cały świat,*
*prawda, nie był z twoich stron,*
*co mu dałaś, wypił więc i zjadł,*
*potem cię za żonę wziął.*

*Widzisz mała, jak to jest,*
*tyle serca, taki gest,*
*widzisz mała, jak to jest,*
*tyle serca, taki gest...*

*Elegancki, to on zawsze był,*
*trzy koszule w jeden dzień,*
*ty prasujesz, a on śpi*
*lub do rana bawi się.*
*Gdy o świcie do domu wracał znów*
*choć pijany, albo zły,*
*ty się cieszysz, że jest cały, zdrów*
*i że przy nim jesteś ty.*

*Widzisz mała, jak to jest... itd.*

*Do więzienia potem trafił on*
*choć nie na śmierć wtedy bił,*
*ty płakałaś, jak był sąd,*
*że się trzeba żegnać z nim.*
*Przychodziłaś do więzienia tam,*
*co dzień paczka, albo list,*
*ktoś się nawet z tobą żenić chciał,*
*nic odpowiedziałaś nic.*

*Widzisz mała, jak to jest... itd.*

*Przeminęło dziesięć twardych lat,*
*gdy z więzienia wyszedł on,*
*znów mu szczęście chciałaś dać,*
*ale on już inną wziął.*
*Wypłakałaś całe oczy twe —*
*popatrz, ile ty masz lat,*
*a on jeszcze hula, bawi się,*
*a on jeszcze młody jest.*

*Widzisz mała, jak to jest... itd.*

